 

ЦАНА — PRICE 25 ¢

Published by BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

Address: BIELARUS 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ — BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVI. № 98. Травень 1965. NEW YORK — TORONTO May 1965. Vol. XVI. № 98

## БАЦЬКА БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭНЬНЯ

### НА 125 УГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ И 65-ЫЯ АД СЬМЕРЦІ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА

22 сакавіка сёлета споўнілася 125 год ад нараджэньня Францішка Багушэвіча, а 28 красавіка — 65 год ад ягонае сьмерці.

Паэтычная й грамадзкая дзейнасьць Францішка Багушэвіча — гэта вялікая падзея ў беларускім нацыянальным і культурным жыцьці другой палавіны й асабліва канца мінулага стагодзьдзя. Гэта падзея, якая сваёй роляй і значаньнем у беларускім адраджэнстве стварыла цэлую эпоху. Яна вызначала сабой галоўны зьмест і дала кірунак усяму нацыянальнаму адраджэньню таго часу, калі жыў і тварыў Багушэвіч. Апрача гэтага, яна й заплоднівала ды паказвала ідэйны шлях і для наступнага па Багушэвічу пакаленьня.



Значаньне й роля Багушэвіча перш-наперш у тым, што ён быў першым беларускім узапраўды народным і нацыянальным паэтам. І таму роля ягоная ў беларускім адраджэньні тая самая, што, прыкладам, роля Тараса Шаўчэнкі ў адраджэньні ўкраінскім.

Да Багушэвіча фактычна яшчэ ня было наскрозь нацыянальнай беларускай літаратуры, а была адно літаратура, пісаная беларускай мовай. Былі гэта літаратурныя творы пра беларускага селяніна, да якога прамаўлялі сацыяльна чужыя яму людзі. Затое Багушэвічавы творы былі ўжо голасам як-бы самога селяніна, у якім на ўсю моц гучэла ягоная крыўда, ягоныя думкі й імкненьні. Багушэвіч першы выступіў у вабароне людзкой годнасьці беларускага селяніна. Ён першы паставіў пытаньне ня толькі сацыяльнага вызваленьня, але й нацыянальнага адраджэньня беларускага народу.

У сваей нацыянальнай канцэпцыі, побач зь вялікімі дабрадзействамі, зрабіў Багушэвіч, праўда несьвядома, і адну крыўду, што мсьціцца на нас і да сяньня.

На зары беларускага адраджэньня ў пачатку й сярэдзіне XIX стагодзьдзя яшчэ ня быў канчаткава ўстаноўлены нашымі продкамі наш нацыянальны назоў. У друкаваных памятках гэнага часу на абазначаньне нашага народу раўналежна й адначасна ўжываліся тры назовы: найстарэйшы наш пляменны назоў Крывічы, пасьлейшы гістарычны назоў — Ліцьвіны, і зусім новы, прапагаваны дзеля чыста палітычных мэтаў расейскімі дзейнікамі — Беларусы. Да Багушэвіча перавага была яшчэ за двума першымі назовамі. Багушэвіч замацаваў гэны трэйці назоў, які, як паказала пазьнейшая гісторыя, быў палітычна нам нявыгадны. У сваёй прадмове да „Дудкі беларускай" Багушэвіч, наўсуперак гістарычнай праўдзе, пісаў:

**„Спрадвеку, як наша зямелька зь Літвой злучылася, як і з Польшчай зьядналася, дык усе яе „Беларусяй" звалі і не дарма-ж гэта! Не вялікая, не малая, ня чырвоная, ня чорная яна была, а белая, чыстая: нікога ня біла, не падбівала, толькі баранілася..'**

Гэтыя кароткія словы, выказаныя простай мовай, заважылі на ўсёй нашай гісторыі. Гэтае апотэазаваньне, робленае ў зусім добрым намеры, назову Беларусь дало яму поўную перавагу над больш адпаведнымі й палітычна выгоднымі назовамі — Крывія або Літва.

Бадай што найважнейшым укладам Багушэвічавым у справу беларускага нацыянальнага адраджэньня. было тое, што ён першы запачаткаваў і сфармуляваў тэзу, што захаваньне народам ягонае роднае мовы раўназначнае зь існаваньнем народу, як апрычонай нацыі. Багушэвічаў лёзунг — **„Беларусы, не пакідайце мовы вашай беларускай, каб ня ўмерлі!"** — падхоплены й разьвіты паэтамі нашаніўцамі, перш-наперш Янкам Купалам, стаўся галоўным дэвізам нашага нацыянальнага адраджэньня. Лёзунг гэты, ня менш чымся ў Багушэвічавы часы, актуальны й сяньня, калі беларускія паэты й пісьменьнікі ў БССР часта выступаюць у сваіх творах у вабароне роднае мовы, загрожанае русыфікатарскай палітыкай маскоўскага камунізму. І ці не найвялікшая Багушэвічава заслуга якраз у тым, што ў цэнтры сваёй нацыянальнай канцэпцыі ён паставіў ува ўсёй вайстрыні пытаньне захаваньня роднае мовы.

Творчасьць Багушэвіча дала першы штуршок для нацыянальнага ўсьведамленьня народных масаў. Да Багушэвіча нацыянальна сьведамай была адно невялікая частка інтэлігенцыі, пераважна шляхоцкага паходжаньня, бо із сялянства, якому шлях да асьветы быў тады закрыты, не магла паўстаць свая інтэлігенцыя. Але Багушэвічавы зборнікі „Дудка беларуская" й „Смык беларускі" гэтак пашырыліся ў народных масах, што зьмешчаныя ў гэтых зборніках творы хутка сталіся як-бы народнымі. Творы ніводнага з пазьнейшых паэтаў, улучна з творамі Янкі Купалы й Якуба Коласа, ня сталіся нагэтулькі пашыранымі ў народзе, яму блізкімі й зразумелымі, як вершы Багушэвіча. Гэта таму, што Багушэвіч умеў прамовіць да селяніна ягоным собскім складам мовы, ягонымі паняцьцямі й разуменьнямі, умеў у мастацкіх вобразах адкрыць селяніну ягоную собскую душу. Дзякуючы ўсяму гэтаму, адраджэнскія ідэі Багушэвіча пападалі на ўраджайную народную глебу. Вось гэта ягоная роля, як першага пашыральніка нацыянальнае сьведамасьці сярод народных масаў — гэта наступная гістарычная заслуга Багушэвіча.

І, наапошку, Багушэвічава паэзія ў ладнай ступені пабудзіла да літаратурнай творчасьці іншых паэтаў ягонае пары, як Янка Лучына, Альгерд Абуховіч, Адам Гурыновіч, зрабіла моцны ідэйна - мастацкі ўплыў на ўсю беларускую літаратуру канца XIX стагодзьдзя. Але, апрача гэтага, ягоная творчасьць, як у ідэйнай, гэтак і ў літаратурна-мастацкай роўніцы заплоднівала й творы нашае паэзіі нашаніўскае пары, прынамся ейных першых гадоў. Гэтак вершы Цёткі ды навет раньнія творы самога карыфэя нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы сваімі ідэйнымі й мастацкімі вытокамі сягалі паэтычнай спадчыны Багушэвіча.

Гэткім парадкам дадзены пасьлей Багушэвічу назоў „Бацькі беларускага нацыянальнага адраджэньня" зусім правільны й поўнасьцяй ім заслужаны.

**Ст. Ст.**

## УСЕ ЗЛАЧЫНСТВЫ ПАВІННЫ КАРАЦЦА

Нядаўна беларуская савецкая прэса апублікавала афіцыйную заяву ўраду БССР, у якой ён пратэстуе супраць пастановы ўраду Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі спыніць далейшае перасьледваньне нацыстаўскіх злачынцаў. Урад БССР вымагае іхнага пакараньня незалежна ад 20-ці гадовае задаўненасьці ад часу зробленых імі злачынстваў. Прыгледзімся бліжэй да гэтага складанага пытаньня.

Аргуманты, якія падаюцца ў заяве савецкага ўраду Беларусі, прамаўляюць да сумленьня кажнага здаровадумаючага чалавека. Бо-ж сапраўды, няўжо можна прытрымоўвацца закону 20-гадовае задаўненасьці, які быў прыняты яшчэ ў 1871-ым годзе, да масавых гітлераўскіх злачынстваў супраць людзтва? Вось-жа толькі ў самой Беларусі нацыстыя зьнішчылі больш за два мільёны людзей нявінаватых, не гаворачы ўжо аб ахвярах нацызму ў іншых краінах Эўрапы. Такія злачынствы ня могуць падпадаць 20-гадоваму задаўненью, бо іхная жудасная вялічыня пераходзіць межы звычайных злачынстваў, якія выяўляюцца ў людзкім грамадзтве.

Аднак, абурэньне кажнага сумленнага чалавека, выкліканае прыгаданьнем нацыстаўскіх злачынстваў, міжвольна выклікае адначасова цэлы шэраг думак, адкрывае жывыя раны ўспамінаў аб іншых масавых злачынствах супраць чалавецтва. Гэта — бальшавіцкія злачынствы й злачынцы, якія захаваўшыся ад кары, сядзяць не ў далёкай Нямеччыне, але ў Савецкім Саюзе, у тым ліку і ў Беларусі.

Нядаўна ў маскоўскім часапісе „Новый Мир" зьявіўся цікавы раман Анатоля Рыбакова — „Лета ў сасьнякох", тэмай якога зьяўляецца праблема людзей, што былі апорай сталінскага рэжыму, высылалі на сьмерць тысячы людзей, ці навет самі іх расстрэльвалі, а цяпер далей сядзяць на кіраўнічых пазыцыях. карыстаючыся даверам партыі. Рыбакоў сымбалічна паказвае ў сваім рамане асобу інжынера Колчына, які канчае самагубствам. Колчын у сталінскія часы быў змушаны МВД даносіць на сваіх таварышаў працы; яго грызе сумленьне і ён сам сябе карае.

Такім чынам. аўтар повесьці „Лета ў сасьнякох" актуалізуе праблему віны і кары за злачынствы пры Сталіне. Бо-ж, урэшце, справа ня толькі ў дэсталінізацыі, якую праводзіць партыя, ці ў рэгабілітацыі некаторых ахвяраў сталінскага тэрору. Справа — у вадказнасьці перад законам усіх тых, што бралі ўдзел у сталінскіх злачынствах. Праўда, усе яны могуць паклікацца на загады зьверху. Але-ж і гітлераўскія злачынцы, якіх судзілі і судзяць у Нямеччыне, таксама паклікаліся й паклікаюцца на загады зьверху. Аднак, не зважаючы на гэта — іх судзяць і караюць.

У Савецкім Саюзе цяпер вельмі часта гаворыцца аб аднаўленьні сацыялістычнай законнасьці. Аднак, асновай кажнай законнасьці, значыць і сацыялістычнай,—гэта строгае захоўваньне прававых нормаў ува ўсіх выпадках і караньне за зробленыя злачынствы. З прававодга пункту гледжаньня ўсе ўдзельнікі сталінскага тэрору зьяўляюцца злачынцамі, якіх трэба было судзіць за іхныя злачынствы. Гэтае правіла ўжылі ў Нямеччыне супраць нацыстых і ў сувязі з гэтым пакараныя шматгадовай турмой дзесяткі тысяч злачынцаў.

Дасюль, аднак, ня чуваць, каб у Савецкім Саюзе адбыўся хоць адзін працэс супраць апрычнікаў Сталіна, на сумленьні якіх ляжыць ня менш злачынстваў, чымся на сумленьні нацыстых. Толькі некаторых зь іх бяз суду, патаёмна, тымі-ж самымі сталінскімі мэтадамі, зьліквідавалі пасьля сьмерці Сталіна ў разгары змаганьня за ўладу.

У такіх абставінах, калі нічога ня робіцца для пакараньня сталінскіх злачынцаў, а адначасова кідаюцца громы абурэньня на Нямецкую Фэдэратыўную Рэспубліку за тое, што яна хоча спыніць далейшы перасьлед гітлераўскіх злачынцаў, — у такім выпадку ўсякія заявы адносна гэтага маюць характар крывадушнасьці, двурушніцтва й хвальшу. Усіх падобных злачынцаў трэба мерыць аднэй меркай. Нельга прамоўчваць і прыхоўваць адныя злачынствы й адначасова вымагаць пакараньня іншых.

У сьвятле заявы ўраду БССР што да гітлераўскіх злачынцаў было-б на месцы, каб грамадзкасьць Беларусі ды іншых рэспублікаў паставіла на парадак дня справу апублікаваньня матарыялаў сталінскіх злачынстваў ды справу пакараньня іх.

**К. М.**

## ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫЯ ВЕЧАРЫ

Ад справаздачы ў папярэднім нумары „Беларуса" адбыліся за апошні час наступныя Літаратурна-Навуковыя Вечары, ладжаныя Ньюёрскай Акругай БАЗА ў памешканьні Дому Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ў Нью Ёрку.

Другі Літаратурна-Навуковы Вечар адбыўся 13 лютага зь цікавым дакладам інж. М. Гарошкі аб жыцьці й дзейнасьці Прэзыдэнта Рады БНР Пётры Крэчэўскага. Справаздача з гэтага Вечару зьмяшчаецца асобна ў гэтым нумары газэты. Трэйці Вечар адбыўся 20 лютага, на якім была праведзеная жывая й цікавая дыскусія аб тым, ці літаратурныя й іншыя творы Беласаў у небеларускай мове мы павінны залічаць да беларускай літаратуры, ці пакідаць іх поўнасьцяй для літаратуры таго народу, у мове якога яны напісаны. Дыскусія прыйшла да выснаву, што творы такіх пісьменьнікаў, якія абаснаваныя на беларускім матарыяле, хоць і напісаныя ў чожой мове — польскай, расейскай ці лацінскай, калі ходзіць пра літаратуру старую, павінны залічацца да беларускай літаратуры. Як прыклады такіх твораў, прыводзіліся „Баляды й раманы". Другая частка „Дзядоў" ды „Пан Тадэуш" Міцкевіча, напісаныя ў польскай мове, „Падарожжа па Палесьсі й беларускаму краю" Шпілеўскага, напісанае парасейску, а як прыклад твораў у лацінскай мове — была пададзеная паэма Мікалая Гусоўскага „Аб жубры" з пачатку XVI стг.

Чацьверты Вечар адбыўся ў сыботу 14 сакавіка, на якім д-р Янка Станкевіч прачытаў рэфэрат на тэму „Аб найважнейшых мамэнтах зь гісторыі ўсходнябеларускіх земляў, захопленых Масквой у пачатку XVI стг". Пяты Літаратурна-Навуковы Вечар адбыўся ў сыботу 10 красавіка, на якім былі праслуханыя з магнітафоннай стужкі некаторыя скрыпты перадачаў Радыя „Свабода" аб беларускай літаратуры 20-ых гадоў.

## ЗЬМЕНЫ НА ПАРТЫЙНЫХ ВЯРХОХ

Пленум ЦК КПСС, што закончыўся 26 сакавіка сёлета, правёў вялікія зьмены ў эканамічнай палітыцы Савецкага Саюзу, аддаючы больш увагі сельскай гаспадарцы, і ў васабістым складзе партыйнага кіраўніцтва. Як вынік гэтых зьменаў, на вярхі партыйнай герархіі выйшаў дасюлешні першы сакратар ЦК КП Беларусі й кандыдат у сябры Прэзыдыюму ЦК КПСС Кірыла Мазураў. Ён стаўся цяпер поўным сябрам Прэзыдыюму ЦК КПСС і заняў становішча першага заступніка Прэм'ера Касыгіна.

Заходнія назіральнікі ўважаюць, што назначэньне К. Мазурава на новую пасаду становіць адну з галоўных асаблівасьцяў апошняе рэформы ў Савецкім Саюзе.

К. Мазураў мае быць каардынатарам у новым праекце кардынальнага ўздыму сельскае гаспадаркі, якая дагэтуль была найслабейшым месцам савецкае эканомікі.

Газэта „Нью-Ёрк Таймз" (27 сакавіка й 4 красавіка 65 г.) адзначыла, што назначэньне Кірылы Мазурава на новае становішча — гэта „першы выпадак у навейшай савецкай гісторыі, што Беларус назначаны на такое высокае становішча ў саюзным урадзе."

Кірыла Мазураў нарадзіўся ў 1914 годзе на Гомельшчыне. У 1933 годзе закончыў Гомельскі аўтадарожны тэхнікум. З 1936 году служыў у арміі. У партыю ўступіў у 1940 годзе. У 1942 г. быў накіраваны на падпольную работу ў партызанскім руху на Беларусі. Ад 1947 да 1949 г. працаваў у апараце ЦК КПБ. Закончыў завочную Вышэйшую партыйную школу й у 1950 г. быў першым сакратаром Менскага абкому партыі. У 1953 г. стаўся Старшынём Савету Міністраў БССР. У 1956 г. — першым сакратаром ЦК КПБ. У 1957 г. — кандыдатам у сябры Прэзыдыюму ЦК КПСС.

30 сакавіка 1965 г. на пленуме ЦК КП Беларусі за першага сакратара ЦК КПБ быў абраны Пётр Машэраў. Машэраў нарадзіўся ў 1918 годзе на Віцебшчыне. У партыі ад 1943 году. Вучыўся ў рабфаку. Скончыў Віцебскі пэдагагічны інстытут, быў настаўнікам матэматыкі. У часы вайны ўзначальваў камсамольскую падпольную арганізацыю ў Расонскім раёне, камандаваў партызанскім аддзелам, а пасьля быў камісарам партызанскае брыгады. Апошнім часам займаў становішча сябры ЦК КП Беларусі.

**З.**

 

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper of North America
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
Address in U.S.A.: 166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Address in Canada: Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 4.00 yearly.

**БЕЛАРУС** — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. **Рэдагуе Калегія.**
**Выдаюць:** Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртаваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкаю — 4 дал. на год.

## Адзначаючы яшчэ адны угодкі

Дваццаць год таму, 30-га красавіка 1945-га году, у гісторыі Беларускага вайсковага руху сталася падзея, якая, — значная сама зь сябе, — набірае з пэрспэктывы часу ўсьцяж паважнейшага значаньня. Падзеяй гэтай быў прарыў Дывізіяй „Беларусь" нямецкага фронту й далучэньне яе да Амэрыканскае арміі.

Адбылася гэтая падзея гэтак:

На прадвесьні 1945-га году Немцы ўжо ясна ўсьведамілі сабе, што вайна будзе імі прайграная. Аднак, упартасьць Гітлера была гэткая маніякальная, што лёзунгам ягоным заставалася ўсьцяж „змаганьне да апошняга жаўнера". Дык, хоць дух нямецкае арміі быў ужо далёка не ваяўнічы, войскі СС моцна трымаліся свайго фюрэра.

У гэтыя трагічныя для Нямеччыны дні, у Баварыі, у мясцовасьці Вайэргаммэр знаходзілася беларуская дывізія, гэтак і названая дывізіяй „Беларусь". Зь нямецкага боку дывізіяй гэтай камандваў падпалкоўнік СС — Зіглінг. Аднак, у красавіку 1945-га году, нямецкае камандваньне адклікала Зіглінга на іншае становішча, і дывізію „Беларусь" абняў быў стары нямецкі маёр, пакліканы ў армію з рэзэрву.

Дывізія мела й свайго беларускага камандзера, які дубляваў — паводля ўмовы — становішча камандзера-Немца. Дзякуючы недалужнасьці старога маёра, ён і быў у гэным часе фактычна адзіным камандзерам дывізіі „Беларусь".

Падзеі, тымчасам, разгортваліся ўсё хутчэй. Нямецкая армія, на якую наступалі з захаду саюзьнікі, хаотычна адступала на ўсход. Як апошняя спроба ратунку, Гітлер наважыў сьцягнуць уцалелае яшчэ войска СС у Тырольскія горы й бараніцца там да апошняга. Падпала пад Гітлераў загад адыходзіць у кірунку Тыролю й нашая дывізія „Беларусь".

20-га красавіка 1945-га году Дывізія „Беларусь" пакінула ваколіцы Вайэргаммэру й памашыравала на паўдня ў кірунку Пасаў. Нямецкі камандзер дывізіі ізь ёю не пайшоў і яна вырушыла ў свой апошні марш пад камандаю свайго камандзера — Беларуса. Дывізія „Беларусь" была ўзброеная Немцамі вельмі слаба. Але да кажнага ейнага батальёну было прыдзелена па 50 жаўнераў нямецкага СС, якімі камандваў свой нямецкі капітан. Яны былі ўзброеныя вельмі добра.

Маральны стан нашых беларускіх жаўнераў быў у гэтым часе вельмі благі. Ды й ці дзіва? Мы машыравалі некуды ў няведамае, да таго — маўляў пад эскортаю добра ўзброеных эсэсаўцаў. Шлях нашага маршу часта перацінаілі, у паасобку й групкамі, нямецкія жаўнеры-дызэртыры, што ўцякалі з фронту. Было выразна відаць, што фронт пачаў ужо развальвацца. Усе мы разумелі, што Немцы нас ашукалі. Яшчэ ў пачатках арганізацыі беларускага войска, на бацькаўшчыне, — як першая ўмова арганізацыі — нямецкае камандваньне прыракло было Беларусам, што нашыя вайсковыя злучэньні будуць ужытыя выключна супраць савецкае арміі, якая наступала на Беларусь. Тымчасам, дывізія „Беларусь" машыравала не на ўсход, а на паўдня, няведама куды й супраць каго.

Але гэткі прыгнечаны настрой панаваў у беларускіх радох адно да часу, пакуль дывізія не дайшла да мясцовасьці Айзэнштадт Дорф.

Тутака — дывізія „Беларусь" затрымалася. Беларускі камандзер дывізіі, параіўшыся із сваім штабам, наважыў далей не машыраваць, каб даць магчымасьць жаўнерам адпачыць, а камандваньню — разглядзецца ў палажэньні й вырашыць, што рабіць далей.

Тутака, на згаданай нарадзе, і нарадзілася ў нас думка прарвацца празь нямецкі фронт, трыманы бадай выключна войскамі СС, і далучыцца да Амэрыканскае арміі, якая, паводля атрыманых рознымі шляхамі вестак, знаходзілася ўжо недалёка.

І вось, адразу-ж пасьля нарады, усім Немцам, якія знаходзіліся пры дывізіі, было запрапанавана неадкладна яе пакінуць, што яны й выканалі, хоць і не безь пярэчаньняў і пагрозаў.

Прызнацца, пастанова беларускага штабу была вельмі рызыкоўная й небясьпечная. Бо, калі-б зь нейкае прычыны, нам не ўдалося прарваць нямецкага фронту і далучыцца да амэрыканскае арміі, нямецкія войскі СС, асабліва азьвярэлыя гэнымі днямі, бясспрэчна расстралялі-б нас усіх. Але палажэньне для дывізіі стварылася гэткае, што трэба было рызыкаваць.

Назаўтрае, калі камандзер дывізіі абвесьціў афіцэрам і жаўнерам, што пастаноўлена пераходзіць на амэрыканські бок, усе прынялі гэта з энтузіязмам. І пераход адбыўся.

30-га красавіка, недалёка ад места Цьвізэлю, дывізіі „Беларусь" удалося ў поўным парадку й з усімі абозамі перайсьці да Амэрыканцаў.

Гэтая падзея сталася яшчэ адным довадам таго, што Беларусы, якія зь вялізарнымі цяжкасьцямі арганізавалі беларускія вайсковыя адздзелы пад нямецкай акупацыяй, ніколі ня мелі на думцы ваяваць ані з Амэрыканцамі, ані зь іншымі заходнімі дзяржавамі, хоць і былі наважаныя да канца змагацца з панявольніцаю беларускага народу — імпэрыялістычнаю савецкаю дзяржавай. І сяньня, калі мінулі якраз 20-я ўгодкі прыгаданых гэтта падзеяў, варта прыпомніць аб іх усёй беларускай эміграцыі ў вольным сьвеце.

Пераход дывізіі „Беларусь" пры першай-жа зручнай нагодзе на бок заходніх аліянтаў задэманстраваў перад усім сьветам запраўдныя ймкненьні Беларусаў і шчырую прыязнь беларускага народу да вольных дэмакрацыяў Захаду.

**Ф. Кушаль**

### ПАПРАЎКА

У № 96-97 нашае газэты за сакавік-красавік, як і ў некаторых папярэдніх, быў ужыты тытул „Віцэ-Прэзыдэнт Рады БНР", якога ня йснуе й ніколі не йснавала ў практыцы. Просім чытачоў выбачыць нам гэтую апіску.

**Рэдакцыя**



# ПАШТОВЫЯ МАРКІ БНР
### СЭРЫЯ 1918 ГОДУ

Даволі шырака знаныя й часта рэпрадукоўваныя ў філятэлістычных каталёгах сьвету паштовыя маркі Беларускае Народнае Рэспублікі сэрыі 1920 году з этнаграфічна-бытавым малюнкам ды з надпісам АСОБНЫ АТРАД БНР. Куды меньш ведамая, затое, ня толькі чужым, але й сваім сэрыя першая паштовых марак БНР зь вясны 1918 году, адбіткі якіх тут памешчаныя. Сэрыю 1918 году складаюць тры маркі з трымя рознымі малюнкамі: аратага, гэрбу Пагоня й доктара Скарыны. На ўсіх надпісы: БЕЛАРУСЬ ПОЧТА. Усе тры маркі ведамыя ў двух варыянтах — з зубцаванымі й незубцаванымі берагамі.








**Першая сэрыя паштовых марак БНР, выпушчаная ў 1918 г.**
**Із збораў Фундацыі імя П. Крэчэўскага**

Марка найвышэйшае намінальнае вартасьці гэтае сэрыі — 5 рублёў — мае вобраз беларускага аратага, што скародзіць свой палетак. На кругавідзе ўсходзіць сонца. Марка ў двух колерах: рысунак выкананы колерам сінім, поле мае сьветлааранжавы колер.

Марка з Пагоняй таксама двукалёрная: рысунак сінім, а поле Пагоні й цыфра намінальнае вартасьці маркі — „3" — чырвоным.

Марка з патрэтам доктара Скарыны друкаваная ў вадным, цёмнарудым, колеры. Намінальная цана — 2 рублі. Вобраз доктара Скарыны ўзяты для яе з патрэту памешчанага ў Бібліі ягонага выданьня. Пад узорным ручніком, на якім Скарынаў гэрб — маладзік у сонцы — дададзены надпіс лацініцай: Франьцішак Скарына з Полацка, 1517 — 1917.

Калі маркі АСОБНЫ АТРАД БНР мелі абмежаны засяг карыстаньня, бо служылі толькі для патрэбаў вайсковага „Асобнага атраду" БНР, дык маркі першае сэрыі з надпісам БЕЛАРУСЬ ПОЧТА, прызначаныя былі для агульнага ўжытку на тэрыторыі ўсяе рэспублікі.

Лёгка зацеміць, што тэмы малюнкаў трох марак выбраныя прадумана й адбіваюць ідэйныя асновы, на якія клалі націзк тагачасныя дзяржаўныя мужы пры будове новае дзяржаўнасьці Беларусі. Марка найвышэйшае намінальнае вартасьці, з аратым, сымбалізуе беларускі, у сваёй аснове сялянскі, народ. Гэта нацыянальная й эканамічна-сацыяльная база, на якой мела апірацца новая дзяржава. Аўтарытэт улады Беларускае Народнае Рэспублікі меў дэмакратычна грунтавацца на гэтай, нацыянальна маналітнай і лікам наймагутнейшай, клясе белрускага народу, і ў сваёй дзейнасьці народная рэспубліка мела арыентавацца найперш на яе інтарэсы й патрэбы.

Другая па намінальнай вартасьці — 3 рублі — марка сэрыі мае адбітак гэрбу Пагоня, ці сымбалю дзяржаўнае незалежнасьці й сувэрэннасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Тут, адначасна, і навязаньне да дзяржаўных традыцыяў пары Вялікага Княства Літоўскага, дзяржаўным гэрбам якога Пагоня была.

Трэйцяя марка — з патрэтам Скарыны — таксама зьвярталася да мінулага, да гісторыі, да слаўных беларускіх культурных традыцыяў, ды прыгадвала вядучую калісьці культурную ролю беларускага народу сярод народаў усходняй Эўропы. Кіравала яна, адначасна, увагу на патрэбу й вагу разьвіцьця нацыянальных традыцыяў беларускае культуры ў сваёй новай дзяржаве — БНР.

Калі, як сымбаль вялікіх традыцыяў „залатога веку" беларускае культуры й пісьменнасьці, на паштовай мацры БНР у 1918 годзе быў пакладзены патрэт доктара Скарыны, дык да гэтага спрычынілася тое, што ўсяго год перад гэтым прыпадаў юбілей беларускага друку — 400 год ад выхаду, 6 жнівеня 1517 году, першае Скарынавае кнігі ў Празе.

У 1917 годзе Расейская імпэрыя хісталася ўжо ў сваіх вялікадзяржаўных асновах ды ў сударгах крывавых рэвалюцыяў грузла ў хаосе грамадзкае анархіі. Таму ішла тады сьпешная мабілізацыя ўсіх беларускіх нацыянальна актыўных кадраў на фронт палітычнага змаганьня за вызваленьне Беларусі з каляніяльных путаў імпэрыяльнае Масквы. Беларускімі культурнымі справамі ня было тады калі, ані каму займацца. Дзеля гэтага юбілей беларускага друку ў 1917 годзе быў адзначаны вельмі сьціпла, толькі ў прэсе. У Менску ўгодкам друку й доктару Скарыну быў прысьвечаны тады адзін адмысловы нумар часапісу „Вольная Беларусь" (№ 12).

Гэткая нясумерная скромнасьць адзначэньня такое важнае культурна-гістарычнае падзеі адчувалася тады ў Менску войстра, і дзеля гэтага вясною 1918 году кіраўнічыя колы Рады Беларускае Народнае Рэспублікі заплянавалі шырэйшае публічнае адзначэньне юбілею друку. Як відаць з паведамленьня зь Менску, дадзенага ў петраградзкім беларускім часапісе „Чырвоны шлях" (№ 3-4 зь месяца жнівеня насьпела зразуменьне таго, што для дзяржаўнае незалежнасьці народу 1918 году), яшчэ вясною таго году было пастаноўлена наладзіць у Менску вялікую выстаўку „імені першага беларускага пісьменьніка й друкара,, доктара Франьцішка Скарыны.

Што належнаму адзначэньню юбілею друку прыдавалася цяпер важнае значэньне, відаць з таго, што справа арганізацыі Скарынінскае выстаўкі была даручаная Язэпу Варонку, тагачаснаму старшыні народнага сакратарыяту БНР (прэм'еру). У ходзе сьпешнага дзяржаўнага будаўніцтва ды палітычна-дыпляматычнае актыўнасьці, сярод кіруючых колаў Рады БНР яўна насьпела зразуменьне таго што для дзяржаўнае незалежнасьці народу вялікую вагу заўсёды мае ня толькі палітыка й дыпламатыя, але й культура.

Паводля паведамленьня „Чырвонага шляху", Язэп Варонка ў арганізацыйны камітэт Скарынінскае выстаўкі запрасіў Р. Зямкевіча, І. Луцкевіча, А. Смоліча, А. Уласава, А. Астрамовіча, А. Будзьку, В. Ластоўскага й іншых. Выстаўка мела быць адкрытая ў ліпені 1918 году.

Дык, у сувязі з 400-мі ўгодкамі беларускага друку, нацыянальна-палітычнае значэньне вялікае культурна-духовае спадчыны доктара Скарыны ў колах БНР у Менску ў 1918 годзе адчувалася вельмі войстра. Вось гэта й давяло да таго, што Скарынаў патрэт быў пакладзены на аднай зь першых паштовых марак БНР, як сымбаль велічы й славы беларускае культуры.

Паштовыя маркі Беларускае Народнае Рэспублікі 1918 году, гэта малаведамыя, каштоўныя памяткі аб пачатках будаўніцтва новае беларускае дзяржаўнасьці. На іх вобразна задакумэнтаваныя для будучыні тыя ідэйныя асновы, якія клаліся тады ў падваліны сувэрэннага жыцьця народу. Хоць Беларуская Народная Рэспубліка была пасьлей зьнішчаная чароднай імпэрыялістычнай агрэсіяй чырвонае Масквы, самых асноваў, на якіх яна закладалася й дэмакратычна будавалася — народу, яго гісторыі й культуры — зьніштожыць Маскве не ўдалося й да сяньня.

**Б. С.**

# ЛІТАРАТУРНЫЯ ПРЭМІІ У БССР

Газэта „Літаратура і Мастацтва" за 1-га студзеня сёлета паведаміла аб прысуджэньні рэспубліканскіх літаратурных прэміяў імя Янкі Купалы й імя Якуба Коласа за найлепшыя літаратурныя творы 1963 году. Прэміямі імя Янкі Купалы ўзнагароджаны паэта Анатоль Вялюгін за паэму „Вецер з Волгі" й паэта Мікола Аўрамчык за зборнік вершаў „Сустрэча былых канагонаў". Прэмію імя Якуба Коласа атрымаў Піліп Пестрак за раман „Серадзібор".

Чым кіравалася журы Савету Міністраў БССР, прысуджаючы якраз успомненым аўтарам высокія літаратурныя прэміі? Каб адказаць на гэтае пытаньне, неабходна параўняць узнагароджаныя творы з тымі творамі, што таксама былі вылучаныя пісьменьніцкімі арганізацыямі дзеля ўзнагароды, але ўзнагароджанымі ня былі.

Вось-жа на атрыманьне прэміі імя Янкі Купалы, апрача ўзнагароджаных твораў Анатоля Вялюгіна й Міколы Аўрамчыка, быў яшчэ вылучаны зборнік вершаў Рыгора Барадуліна „Нагбом". Рыгор Барадулін належыць да найбольш цікавых, здольных і арыгінальных маладых беларускіх паэтаў. Ягоны зборнік „Нагбом", як і ранейшыя вершы, паказваюць, што Барадулін — гэта няўпынны шукальнік усё новых формаў мастацкага выражэньня. Для ўсёй ягонай творчасьці агульнае тое, што ў ёй вычуваецца арганічная сувязь з народнымі традыцыямі, з багацьцямі беларускага фальклёру. Гэтая рыса надае ягонай паэзіі самабытны й арыгінальны характар. Не зважаючы на гэтыя якасьці, бясспрэчна станоўчыя для літаратурнага мастацтва, зборнік Барадулінаў „Нагбом" ня быў узнагароджаны.

Зборнік Міколы Аўрамчыка „Сустрэча былых канагонаў" сваімі мастацкімі якасьцямі ня можа раўняцца із зборнікам Барадуліна. Але ў вершах Аўрамчыкавага зборніка апяваецца стваральная праца шахцёраў, як адданых і сьвядомых будаўнікоў камунізму. У гэтых вершах моцна падчыркнуты мамэнт сучаснасьці й ідэя партыйнасьці. Вось гэтыя асаблівасьці, як сьцьвярджае дарэчы й газэта „Літаратура і Мастацтва" за 1-га студзеня сёлета, і заважылі на прысуджэньні Міколу Аўрамчыку літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы. Значыцца, журы кіравалася тут ня гэтулькі крытэрыямі літаратурна-мастацкімі, колькі меркаваньнямі палітычнымі.

Такая палітыка журы бадай што найбольш выявілася ў прысуджэньні літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы Анатолю Вялюгіну за паэму „Вецер з Волгі". Зь літаратурна-мастацкага гледзішча гэта найслабейшы твор ня толькі сярод іншых твораў, вылучаных для ўзнагароды, але й у творчасьці самога Вялюгіна. Але паэма „Вецер з Волгі" апявае дзяцінства й юнацтва Леніна. А сяньня, як ведама, пасьля асуджэньня культу Сталіна, у Савецкім Саюзе ўзмоцніўся культ Леніна. Вось гэтую акалічнасьць і выкарыстаў Вялюгін, за што атрымаў літаратурную прэмію.

Меркаваньні палітычнага, а не літаратурна-мастацкага характару заважылі й на прысуджэньні Піліпу Пестраку за раман „Серадзібор" літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа. Апрача гэтага раману, была яшчэ прадстаўленая для ўзнагароды трылёгія Рамана Сабаленкі „Іду ў жыцьцё" й аповесьць Алеся Асіпенкі „Абжыты кут". У трылёгіі Рамана Сабаленкі паказанае насьпяваньне й разьвіцьцё рэвалюцыйнай сьвядомасьці ў палескай вёсцы. Значыцца, тэма трылёгіі поўнасьцяй сугучная з камуністычнай ідэяй. Але гэтая трылёгія ня была ўзнагароджаная, відаць, таму, што яна ня сучасная, але ўжо гістарычная. Дзея трылёгіі пачынаецца яшчэ перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй і канчаецца ў вапошнюю Сусьветную вайну.

Аповесьць Алеся Асіпенкі „Абжыты кут" зусім сучасная. У ёй паказаныя жыцьцё й праблемы аднаго калгасу якраз у сучасны мамэнт. Але бяда, відаць, у тым што ў гэтай сучаснасьці аўтар знайшоў ня толькі дадатнія, але й адмоўныя бакі. І таму аповесьць ня была ўзнагароджаная, хаця й вызначаецца яна не малымі мастацкімі якасьцямі.

Раман Піліпа Пестрака „Серадзібор" найслабейшы з усіх гэтых трох твораў. Гэта было адзначана й у друкаваных у газэце „Літаратура і Мастацтва" абмеркаваньнях вылучаных для ўзнагароды твораў. У гэтых абмеркаваньнях, як і ў ра-

# РЭХА 25 САКАВІКА

## У ПАРЫЖЫ

Традыцыйнае сьвята нацыянальнае Незалежнасьці Беларусі сёлета было адзначанае ў Парыжы 28 сакавіка. Сьвяткаваньне пачалося ўрачыстай Божай Службай у капліцы сьв. Людовіка, якую адправіў а. Леў Гарошка. Літургію пяяў хор францускіх студэнтаў пад кіраўніцтвам ведамага нам ужо сп. Дэ Ляпрэдаля. Кульмінацыйным мамэнтам было адсьпяваньне Хэрувімскай песьні, скампанаванай нашым кампазытарам М. Куліковічам, які за падставу кампазыцыі ўзяў беларускі напеў з XVI-XVII стг.

Неабходна таксама адзначыць вялікі ўдзел чужынцаў у сёлетняй рэлігійнай частцы сьвяткаваньня.

Пасьля абеду, дадзенага а. Гарошкам для ўдзельнікаў хору, пачалася ўрачыстая Акадэмія ў прыгожай залі Парыжа, у якой трэба таксама адзначыць шматлікі ўдзел прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў: Французаў, Ангельцаў, Харватаў, Грузінаў, Украінцаў... Асабліва добра былі рэпрэзэнтаваныя Украінцы з радоў былых камбатантаў, а таксама Харваты із Сэкцыі Хрысьціянскіх Работнікаў.

Пасьля прывітальных прамоваў гасьцей старшыня Акадэміі сп. Міхась Наўмовіч перадаў слова Прэзыдэнту Рады БНР Міколу Абрамчыку. Ён у зьмястоўным і глыбокім аналізе вечнасьці й жывучасьці беларускага нацыянальнага руху давёў, што ўсялякія марксістоўска-касмапалітычныя этыкеты, за якімі хаваецца бальшавізм, гэта ня што іншае, як хвалшы. У запраўднасьці-ж за імі хаваецца стары расейскі імпэрыялізм. Як прыклад, прэлегэнт падаў факт, што Масква імкнецца давесьці ўсім нацыям неабходнасьць адрачэньня ад сваёй мовы й сваёй нацыянальнай культуры на карысьць камунізму, але з адным выняткам: расейскай нацыі. Гэтая нацыя, прыбраўшы сабе тытул „старэйшага брата", імкнецца, наперакор усім, накінуць сваю мову й культуру ня толькі народам савецкай імпэрыі, але й г. зв. сатэлітам і наапошку ўсяму сьвету.

Але шматлікія факты даводзяць правал гэтых намаганьняў. Асабліва рэакцыя маладой беларускай інтэлігенцыі ёсьць довадам, што супрацьў русыфікацыі ня толькі жыве за мяжой, на эміграцыі, але й у паняволенай Бацькаўшчыне. Прэзыдэнт падчыркнуў ролю й значаньне эміграцыі ў гэтым працэсе ды намаганьні Масквы зьнішчыць гэтую эміграцыю. Але ўжо той факт, што Масква прысьвячае вельмі шмат увагі й грошай на спараліжаваньне палітычнай дзейнасьці эміграцыі, найлепей сьветчыць аб ейным значаньні ў вызвольным змаганьні.

Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі пачаўся пачастунак „зуброўкай". Большая частка гасьцей засталася доўгі час у залі, людзі знаёміліся бліжэй, узгоднівалі свае пагляды. Калі-ж госьці разыйшліся, яшчэ астаўся гурток Беларусаў і Грузінаў, а наш мастак Віктар Жаўняровіч засьпяваў колькі песьняў, і выняткаў з опэраў у беларускай, італьянскай і расейскай мовах. Чулы настрой, які пры гэтым вытварыўся, магчыма трываў-бы й вельмі доўга, але позная гадзіна змусіла людзей разыйсьціся, каб назаўтра прыступіць узноў да штодзённай цяжкай працы эмігранта-ўцекача. Гэтым разам мы разыйшліся з адсьвежаным агоньчыкам-надзеяй на лепшую будучыню.

**Уладзімер Суліч**

## У БРАДФАРДЗЕ

Стараньнямі Управы й сяброў Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі ўрачыстая Акадэмія, прысьвечаная нацыянальным угодкам, адбылася 27 сакавіка ў Беларускім Грамадзкім Доме ў Брадфардзе.

Распачалося Малебенам у капліцы Б. Д., які адслужыў настаяцель БАПЦарквы ў Ангельшчыне а. Янка Абабурка. У сваім глыбока патрыятычным казаньні а. Я. Абабурка заклікаў верыць у поўнае зьдзейсьненьне ідэі, выказанай у Акце 25 Сакавіка. За гэтую ідэю вернікі адсьпявалі „Многае лета".

Пасьля гэтага пачалася урачыстая Акадэмія. Залю Беларускага Дому, упрыгожаную нацыянальнымі эмблемамі, напоўнілі Беларусы з Брадфарду, Лідс і аколіцаў. Старшыня управы Аддзелу ЗБВБ сп. Янка Калбаса прывітаў прысутных із сакавіковым сьвятам. Заклікаючы ўсіх Беларусаў да цеснага й згоднага супрацоўніцтва, ён зазначыў што ня трэба зьвяртаць увагі на галасы сцэптыкаў і розных нязычліўцаў, быццам мы ня зможам ужыцьцявіць сакавіковых ідэяў. Мы павінны пры ўсякіх абставінах працаваць бесьперапынна, каб плады нашае дзейнасьці былі трывалкімі й карыснымі для Бацькаўшчыны.

Далей сп. Я. Калбаса прачытаў прысланыя з нагоды 47-ых угодкаў БНР прывітаньні амаль з кажнага кутка сьвету, куды закінула доля нашых суродзічаў.

Рэфарат аб 25 Сакавіку, які быў на вельмі высокім узроўні, зрабіў вялікае ўражаньне на прысутных, што не аднаму пацяклі сьлёзы з вачэй. Была адыграная з магнітафоннай стужкі 3-яя Устаўная Грамата, вайсковыя маршы, беларуская народныя й патрыятычныя песьні. Рэфарат чытаў сп. інжынер-архітэкт Бэнэдыкт Кляйноў.

У далейшым ходзе праграмы сяброўкі Беларускага Юнацкага Клюбу пры ЗБВБ у Брадфардзе ў беларускай народнай вопратцы пацяшалі, ужо ня першы раз, беларускімі народнымі песьнямі й танцамі. Малады музыка Антон Мучынскі прыгожа граў на акардыёне.

На заканчэньне быў прыгатаваны буфэт з напіткамі й закускамі, дзе прысутныя мелі магчымасьць правесьці вечар у вясёлым настроі.

Выкарыстоўваючы гэтую нагоду, Управа Аддзелу ЗБВБ ў Брадфардзе складае найшчырэйшую падзяку ўсім беларускім арганізацыям за прысланыя пажаданьні й прывітаньні з Днём Беларускай Незалежнасьці.

**Янка Крушына**

## У СЫДНЭІ

Беларусы Сыднэю й аколіцаў сьвяткавалі Дзень Незалежнасьці Беларусі 27 сакавіка сёлета ў гатэлі Фэйрфілд. Сабралася значная колькасьць людзей. А 5-ай гадзіне старшыня Абе'еднаньня Беларусаў у Новай Паўдзённай Валіі сп-ня А. Караняўская ўрачыста адкрыла Акадэмію.

У сваёй кароткай прамове сп-ня Караняўская заклікала ўсіх Беларусаў да актыўнейшай працы на грамадзкай ніве й закончыла прамову, выказваючы надзею, што прыйдзе дзень, калі перамога Праўда ды гістарычная справядлівасьць верне нам наш шматпакутны край.

Вельмі глыбокі й гістарычна абгрунтаваны рэфарат прачытаў сп. А. Качан. Прэлегэнт углыбіўся ў нашую багатую гісарычную мінуўшчыну, выдатна й яскрава акцэнтуючы гуманнасьць і дэмакратычнасьць нашага старога дзяржаўнага ладу ў прырачаньні да тагачасных маскоўскіх цароў - сатрапаў, якія несьлі з сабою сьмерць, дэспатызм і прыгон.

Калі Полацак у 17-18 стг. быў стотысячным горадам, багацейшым за тагачасны Лёндан, дык у 1770 годзе бачым гэты горад спаленым дашчэнту маскоўскімі захопнікамі, жыхарства вырэзанае або забранае ў палон, а на руінах і ў зямлянках жыла ня цэлая тысяча палачанаў.

Калі наш канцлер Леў Сапега, у прадмове да Літоўскага Статуту гаворыць аб вольнасьці й правох грамадзян нашага гаспадарства, дык Іван Грозны ў 1706 годзе загадвае спаліць Смаленск і Менск толькі таму, што там затрымоўваўся шведзкі кароль Карл XII.

Калі Трэйцяя Устаўная Грамата Рады БНР ёсьць адным з найбольш дэмакратычных маніфэстаў таго часу, дык маскоўская драпежная мядзьведзіца спарадзіла „дыктатуру пралетарыяту", насільле й прыгон, якія церпяць і да сяньняшніх дзён мільёны нерасейскіх народаў.

Нашыя заходнія суседзі пакінулі па сабе ня лепшую памятку. Калі адваёўвалі сваю незалежнасьць пры дапамозе амаль усей Заходняй Эўропы, кідалі прыгожыя лёзунгі „За нашую вольнасьць і вашую", а на працягу наступнага дваццацігодзьдзя ганьбяць усё беларускае й стараюцца ператварыць акупаваную частку Беларусі ў сваю калёнію. Аднак народ наш, хоць церпіць, але далей змагаецца, веручы ў лепшае заўтра.

Параськіданыя па ўсіх кутках сьвету—казаў прэлегэнт—мы зьбіраемся ў нашыя Вялікія Дні й дэманструем, што жывём, што жыве змаганьне за Вольную Беларусь.

Пасьля рэфэрату сп. А. Смаль прыгожа прадэкляўмаваў верш Янкі Купалы „Ці помніш ты?". На заканчэньне прысутныя прасьпявалі беларускі нацыянальны гімн.

---

нейшых рэцэнзіях, былі падчыркнутыя дзьве галоўныя хібы раману „Серадзібор". Папершае, гэта хранікальна-апісальная форма апавяданьня, якая перашкодзіла аўтару раскрыць нутраны сьвет шмат якіх пэрсанажаў раману. Падругое, аўтар гэтак пераладаваў свой раман рознымі праблемамі, што ня управіўся ўсіх іх развязаць у ходзе дзеяньня. Дзеля гэтага быў змушаны адно паведаміць аб гэтай развязцы ў эпілёгу. Але-ж Пестрак усе закранутыя ў рамане праблемы із сучаснага калгаснага жыцьця паказаў у поўнай згодзе з партыйнымі дырэктывамі. Вось гэта й было, відаць, прычынай, што якраз яму была прысуджаная прэмія імя Якуба Коласа.

Мэтазгодна прыпомніць, якія аўтары й за якія творы былі ўзнагароджаныя літаратурнымі прэміямі імя Янкі Купалы й імя Якуба Коласа за два ранейшыя гады.

Вось-жа пазалетась за найлепшыя літаратурныя творы 1961 году прэміі імя Янкі Купалы быў узнагароджаны паэта Уладзімер Дубоўка за зборнік паэзіі „Палеская рапсодыя" й драматург Андрэй Макаёнак за камэдыю „Лявоніха на арбіце". Празаік Іван Мележ атрымаў былу прэмію імя Якуба Коласа за раман „Людзі на балоце". Гэтыя творы — гэта бадай найлепшае, што дала зь сябе беларуская савецкая літаратура ня толькі ў 1961 годзе, але й за ўвесь паваенны пэрыяд. Прызнаючы аўтарам гэных твораў літаратурныя прэміі, журы кіравалася адзіна правільным у такіх выпадках літаратурна-мастацкім крытэрым.

Інакш ужо было летась з прысуджэньнем літаратурных прэміяў імя Янкі Купалы й імя Якуба Коласа за найлепшыя літаратурныя творы 1962 году. Праўда, узнагароджаныя тады прэміямі імя Якуба Коласа аповесьць Васіля Быкава „Трэцяя ракета" й зборнік апавяданьняў, аповесьцяў і нарысаў Янкі Брыля „Працяг размовы" яшчэ ня могуць выкліцаць засьцярогаў. Аповесьць Васіля Быкава „Трэцяя ракета" — гэта твор узапраўды высокай мастацкай якасьці. Зборнік Янкі Брыля „Працяг размовы" магчыма й не заслугоўвае на высокую ўзнагароду. Але творчасьць гэтага пісьменьніка, узятая ў цэласьці, прадстаўляе сабой няштодзённую мастацкую каштоўнасьць.

Затое зборнік вершаў Сяргея Дзяргая „Чатыры стыхіі" й зборнік Кастуся Кірэенкі „Смага" былі ўзнагароджаны летась ужо не за мастацкія, але ідэялягічныя мамэнты— за сучаснасьць і партыйнасьць тэматыкі.

Але найгорш зь нядаўна прысуджанымі літаратурнымі прэміямі за 1963 год. Тутака журы кіравалася ўжо вылучна ідэялягічна-палітычнымі меркаваньнямі. Мэта такой палітыкі журы ясная: як мага больш ськіраваць літаратурнае мастацтва на выконваньне службовае ролі партыі. Усё-ж трэба думаць, што гэта ня зьнеахвоціць тых паэтаў і пісьменьнікаў, якія ў мастацкай літаратуры імкнуцца перадусім служыць мастацтву.

**Ст. Крушыніч**

## СЬПЯВАЕ КЛАВА ЯРАШЭВІЧ

Гэта ўжо ўвайшло ў традыцыю нашага эміграцыйнага жыцьця адзначаць урачыста выдатныя нацыянальныя падзеі й угодкі, ладзячы адмысловыя акадэміі, вечары, урачыстыя сходы, упрыгожаныя канцэртнымі вакальнымі й харэаграфічнымі выступленьнямі.

Падчас апошняга сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці Беларусі ў Нью Ёрку асабліва ўрэзаліся мне ў памяць словы аднае песьні, і гэта галоўна таму, што яны, і кампазытарам, і выканальніцай пададзеныя былі з высокім мастацтвам:

Я іду дарогай, дзе красуюць нівы,
Каласамі збожжа шле паклон
здалёк.
Пакланіўся нізка ад душы
шчасьлівы
У калосьсі дымным сіні васілёк...

Якімі толькі дарогамі-каляінамі нам не даводзілася хадзіць па сьвеце ды колькі іх было гэных нязьлічаных дарог... Але толькі адна была тая дарога паміж красуючага збожжа й сініх васількоў у ім, жывы вобраз якое й выклікалі ў нас словы гэтае песьні. Дарога гэная прабягала па роднай беларускай зямлі.

Выконвала песьню Клава Ярашэвіч, добра ўсім ведамая маладая здольная пяюня. І хоць малой дзяўчынкай пакінула яна родны край ды адно абрыўкі-ўспаміны туманіліся пасьлей у ейнай галаве, чулая душа дзіцяці ўвабрала ў сябе чутыя ў дзяцінстве мэлёдыі нашае расьсьпяванае зямлі й перахавала іх.

Любіла сьпяваць Клава Ярашэвіч ад самага маленства. Пяяла пры кажнай нагодзе. За гэта й празвалі былі яе хатнія жаўранкам. Прыехаўшы ў Амэрыку, пачала сыстэматычна працаваць над сваім голасам. У Даглас Каледжы яна закончыла музычны аддзел. Пры дапамозе галоўна праф. Э. Зубковіч і іншых настаўнікаў працавала і над выкананьнем беларускіх народных песьняў гарманізацыяй праф. М. Куліковіча, Багатырова, Палонскага, Грэчаніава й іншых.

У рэпэртуары сьпявачкі цімала й клясычных твораў. На Акадэміі ўгодкаў 25 Сакавіка сёлета яна сьпявала паітальянску „Матыната", музыкі Леанкавалла, а на Акадэміі з прычыны сьмерці Язэпа Пушчы — арыю з опэры „Люцыя" музыкі Доніцэтты. У вадмысловай клясе Амато-Опэра, якая рыхтуе да пастаноўкі гэтую опэру, Клава Ярашэвіч выконвае ролю Люцыі.

— Якія Вашыя найбольш улюбленыя беларускія песьні? — спытала я адноўчы сьпявачку.

— О, хіба „Васількі" кампазыцыі М. Куліковіча ды й іншыя, — адказала яна. — Я люблю ўсе беларускія песьні, асабліва народныя. Мне цяжка сказаць, якую люблю найбольш, але перадусім я люблю песьні жніўныя й пра васількі.

Мы рады, што тут на эміграцыі мы маем нагоду чуць беларускае песеннае мастацтва на такім высокім прафэсіянальным узроўні й у такой шчырай лірычнай інтэрпрэтацыі нашай маладой сьпявачкі Клавы Ярашэвіч.

**З. С.**

## І У КЛІЎЛЕНДЗЕ

**Ад Рэдакцыі:** Зьмяшчаючы ў папярэднім нумары „Беларуса" справаздачу із Сакавіковай Акадэміі ў Кліўлендзе, ладжаная мясцовым Сэктарам Рады БНР, мы ўспомнілі, што ў гэты-ж самы дзень адбылася й другая Акадэмія, ладжаная Беларуска-Амэрыканскім Аб'еднаным Камітэтам у Кліўлендзе, але не маглі пра яе шырэй напісаць, бо не атрымалі ад арганізатараў Акадэміі патрэбнай справаздачы. Перад самым выхадам гэтага нумару газэты, старшыня ўспомненага Камітэту прыслаў нам гэны матарыял з просьбаю выкарыстаць яго хоць спозьнена ў „Беларусе", што з прыемнасьцяй і робім гэтта:

**

Беларуска-Амэрыканскі Аб'еднаны Камітэт, загадзя рыхтуючыся да сьвяткаваньня, зьвярнуў асаблівую ўвагу на тое, каб як найбольш зрабіць прапаганды ды само сьвяткаваньне правесьці зь як найлепшым пасьпехам.

Губэрнатар штату Огаё выдаў праклямацыю, у якой абвесьціў дзень 25 сакавіка Днём Беларускай Незалежнасьці ў сваім штаце. Мэр гораду Кліўленд выдаў таксама такую-ж праклямацыю, абвяшчаючы ў горадзе Дзень Беларускай Незалежнасьці, ды прыняў беларускую дэлегацыю.

Урачыстае сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 28 сакавіка. У парахвіяльнай БАПЦаркве Жыровіцкае Божае Маці, пасьля сьв. Літургіі, а. Аляксандар адслужыў малебен і сказаў прыгожае казаньне. Папаўдні ў Украінскім Народным Доме адбылася Акадэмія. Салістка Іра Каляда пад акампаніямант Олі Дубаневіч прасьпявала Амэрыканскі гімн. Старшыня Камітэту сп. Ул. Дунец адкрыў Акадэмію й прадставіў мгр. В. Пляскача, які вёў афіцыйную частку.

Першым прамоўцам быў ведамы прыяцель паняволеных народаў кангрэсмэн А. Ф. Фіен. Ён ўспомніў слаўныя мамэнты зь гісторыі беларускага народу ды выказаў веру, што ўсе паняволеныя народы здабудуць сваю незалежнасьць, калі ня мірным спосабам, дык сілай зброі. Паангельску зрабіў даклад сп. В. Пляскач. Пабеларуску прамаўляў праф. А. Кахановскі. Сп. Т. Гасьцееў прачытаў праклямацыі Губэрнатара й Мэра гораду, пасьля чаго былі прачытаныя прывітаньні ад амэрыканскіх установаў і кангрэсмэнаў, а так-жа прывітаньні ад іншых нацыянальнасьцяў.

Пасьля кароткага перапынку распачалася мастацкая частка пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага. Вялікае ўражаньне зрабіў хор пад ягоным кіраўніцтвам. Салістка Іра Каляда пад акампаніямант сп. Ул. Літвінкі прыгожа прапяяла некалькі беларускіх песьняў, а танцавальныя гурткі пратанцавалі пяць народных танцаў. Маладыя акардыяністы Оля Дубаневіч і Эдвард Сяргеевіч выканалі некалькі беларускіх мэлёдыяў. Малыя дэкляматары Юля Радзюк і Антон Шпэндзік выступалі зь вершамі. На заканчэньне быў прапяяны беларускі нацыянальны гімн.

## НА ПАРАДЗЕ ЛЯЯЛЬНАСЬЦІ

У сыботу 1-га травеня сёлета адбыўся ў Нью Ёрку традыцыйны ПАРАД ЛЯЯЛЬНАСЬЦІ, ладжаны Ньюёркаўскай Радай Вэтэранаў замежных войнаў Амэрыкі. Гэтая Рада й была зьвярнулася да Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня з просьбаю забясьпечыць належны ўдзел Беларусаў у гэтым Парадзе. Галоўная Управа БАЗА ахвотна прыняла гэтую просьбу й практычнае зарганізаваньне ўдзелу беларускае групы у Парадзе даручыла Ньюёркаўскай Акрузе БАЗА.

Апрача Галоўнай Управы БАЗА й Ньюёркаўскай Акругі БАЗА, удзел у Парадзе прынялі яшчэ Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў, Згуртаваньне Беларускае Моладзі, Жаноцкае Згуртаваньне й Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў Нью Джэрзі. Беларускую групу вялі вызначаныя Галоўнай Управай БАЗА маршалы сп. сп. д-р Ул. Набагез і М. Кунцэвіч. На ганаровай трыбуне беларускае грамадзтва Нью Ёрку рэпрэзэнтавалі: Архіяпіскап Васіль, Галоўны Кіраўнік Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў ген. Ф. Кушаль і Старшыня Галоўнай Управы БАЗА д-р С. Станкевіч.

Беларуская група ў Парадзе рэпрэзэнтавалася наагул добра, хаця аставалася-б пажадаць, каб у падобных імпрэзах прыймала ўдзел большая колькасьць людзей. Беларуская група несла амэрыканскія й беларускія сьцягі, антыбальшавіцкія лёзунгі, а некаторыя ўдзельніцы Параду былі ў беларускіх народных касьцюмах.

# ВЕСТКІ з КАНАДЫ

524 St. Clarence Avenue
TORONTO 4, Ont.
У справах зьвязаных з мата-р'яламі да друку, падпіскай або рэклямай, зьвяртацца;
Mr. A. Markievich,
127 Dovercourt Rd.
Toronto 3, Ont. Tel. LEnox 1-8009
або: Mr. K. Akula,
57 Riverdale Avenue
Toronto 6, Ont.
Tel. HOward 1-3992
Advertising rate — $ 1.25 per column inch


## ПЕРАД КАРАЛЕЎСКАЙ КАМІСІЯЙ



**Сябры Каралеўскай Камісіі для двумоўя й двукультур'я Андрэ Лорэндо (зьлева) й Давідсон Дантон трымаюць экзэмпляр першага рапарту гэтай Камісіі.**

Як ужо ў мінулым годзе ў нашай газэце паведамлялася, Галоўная Управа ЗБК злажыла мэмарандум Каралеўскай Камісіі для двумоўя й двукультур'я ў сувязі з паўсталым крызісам у Канфэдэрацыі. У час побыту ўспомненай Камісіі ў Таронта ў канцы сакавіка сёлета былі запрошаныя ў гатэль Рояль Ёрк усе асобы й арганізацыі, што падавалі мэмарандумы, дзеля абгрунтаваньня выказаных у мэмарандумах паглядаў.

Дэлегацыя ЗБК мела нагоду выказвацца перад Каралеўскай Камісіяй у аўторак 30 сакавіка сёлета, аб чым падавалася ў англамоўных і этнічных публікацыях. Камісія ўжо выдала сваю першую кнігу-агляд вынікаў пачатковых дасьледаваньняў, якую можна набыць праз Квінс Прынтэрс у Ашаве (каштуе 1 даляр). Канчатковыя вынікі працы Камісіі маюць быць апублікаваны ў 1957 годзе.

## КАНАДЫЙСКІЯ ІНДЫЯНЕ У ТРАНЗЫЦЕ

(Canadian Scene). Канадыйскім Індыянам усё больш памагаюць цяпер пакідаць рэзэрвы ды пераходзіць мост зь індыянскага ў ня-індыянскі сьвет, знаходзіць працу. Асабліва павялічваецца пераход у гарады моладзі. Таронта й Вініпэг маюць кажны каля 5.000 жыхароў Індыянаў. Сяньня больш 16% індыянскага насельніцтва, што налічвае якіх 200,000 жыве вонках рэзэрваў у ня-індыянскіх асяродках. Каля 1970 году дзьве трэйці Індыянаў пакіне рэзэрвы. Гэта будзе пераважна моладзь, таму што больш чверці Індыянаў сяньня ёсьць у веку ніжэй шаснаццаці гадоў. Пільнай цяперака ёсьць праблема перашкаленьня іх, каб яны маглі ўліцца ў гаспадарку краіны.

Што-ж у гэтым кірунку робіцца? Першы крок — гэта забясьпечаньне элемантарнай навукі для індыянскіх дзяцей. Бяз гэткай навукі няма ім шансаў знайсьці працу паза рэзэрвамі. Ведаючы гэта, індыянскія бацькі заахвочваюць цяпер, каб дзеці аставаліся ў школах навет калі прыйшоў ужо час легальна пакідаць навуку — 16 гадоў. Сп-р Г. В. Родын, наглядчык індыянскіх школаў у Паўдзённым Антарыё, кажа, што фэдэральны, ўрад даець цяпер магчымасьці Індыянам канчаць высокія школы, даючы ім фінансавыя сяродкі. У 1950 г. адно 360 Індыянаў наведвала гімназіі, (гай скул), у 1963 г. гэты лік вырас да 4,000. Блізу сотня вучылася на ўнівэрсытэтах; шмат зь іх вярнулася навучаць сваіх суродзічаў. Больш 130 Індыянаў настаўнікаў працуе ў Індыянскім Адзьдзеле фэдэральнага дэпартаманту Міністэрства Грамадзянства й Іміграцыі.

Індыянскі адзьдзел дае таксама тэхнічнае й прафэсіянальнае вышкаленьне. У некаторых прадпрыёмствах ёсьць магчымасьці навучаньня Індыянаў пры працы. Падчас навукі іхныя заработкі дапаўняюцца субсыдыямі. Тыя, што маюць адно мінімальную адукацыю, могуць хадзіць на спэцыяльныя курсы, каб падвучыцца дый пасьля ўзяцца за прафэсыйную асьвету.

Індыянскі Адзьдзел мае таксама Праграму Разьмяшчэньня із цэнтрамі ў чатырнаццацёх мясцох. Праграма Разьмяшчэньня памагае тым, што маюць патрэбную адукацыю тэхнічную ці прафэсыйную.

Адылі каб ужыцца ў гарадзкіх асяродках, вымагаецца больш чымся рамесьніцкая падрыхтоўка. Патрабуецца й пэўная мера сацыяльнай арыентацыі. Тутака на помач прыходзіць асабістая кансультацыя. Дванаццаць індыянскіх цэнтраў у гарадох памагаюць інтэграцыйнаму працэсу кансультацыяй, а таксама сяброўствам у правядзеньні вольнага часу.

Цяперашняе канадыйскае індыянскае насельніцтва (200,000) падвоілася ў колькасьці ад пачатку бягучага стагодзьдзя. Прырост Індыянаў (каля 3%) прапарцыянальна большы, чамся якой іншай групы насельніцтва. Адсюль і выплывае патрэба падвышэньня іхнага жыцьцёвага стандарту. Прытарнаваньне іх да жыцьця ў ня-індыянскім сьвеце — гэта неабходнасьць, калі ў будучыні белы й індыянскі сьвет маюць жыць у згодзе.

**А. Н. Гагс**

## СХОД БЕЛАРУСКАЙ САМАПОМАЧЫ

Беларусы канадыйскага гораду Ашава згуртаваныя ў арганізацыі Беларуская Самапомач у Ашаве. У нядзелю 2 травеня сёлета адбыўся ў гасподзе сп-ва Багданоў чарговы Гадавы Агульны Сход сяброў Беларускае Самапомачы, які адкрыў прывітальнымі словамі ейны старшыня сп. Г. Харэвіч. Ён-жа зрабіў справаздачу зь дзейнасьці за сваю кадэнцыю, якая была досыць інтэнсыўная. Усьлед за ім із справаздачамі выступілі сп. Адам Тарасэвіч — сакратар і сп. Віктар Харэвіч выконваючы абавязкі скарбніка. Із справаздачаў было відаць, што ўправа працавала старанна й ахвярна, за што атрымала абсалютарыюм з падзякаю. Значная сума грошай была выплачаная арганізацыяй асобам, што пацярпелі пры нешчасьлівых выпадках і хворым сябром. Фонд дапамогі ў сучасны мамэнт налічвае звыш 1.300 дал.

У выніку тайнага галасаваньня сп. Георгэн Харэвіч бальшынёй галасоў перамог сп. А. Тарасэвіча й застаўся яшчэ на адзін год старшынём, а сп. Н. Багдан праз аклямацыі быў выбраны сакратаром. Сп. В. Харэвіч перамог у галасаваньні сп. сп. Пунтуса й Грабко ды стаўся скарбнікам. У склад Рэвізійнага Камітэту былі выбраныя праз аклямацыі сп. сп. Ул. Пунтус, Я. Рунда, й Ул. Пасевіч. Неўзабаве пасьля Сходу было абмеркаванае пытаньне ўдзелу Беларусаў і ў гэтым годзе ў Ашаўскім Народным Фэстывалі, які адбудзецца 1 ліпеня сёлета на Даміньён Дэй.

**А.—віч**

### КАНФЭРЭНЦЫЯ АБ КАНАДЫЙСКІХ СЛАВЯНАХ

Унівэрсытэт Альбэрта ўпяршыню склікае ў Канадзе ў Банфе канфэрэнцыю, прысьвечаную праблеме канадыйскіх славянаў, якая адбудзецца 9-12 чэрвеня сёлета. На Канфэрэнцыі будуць абмяркоўвацца навукоўцамі Канады й ЗША гісторыя канадыйскіх славянаў, іхны палітычны й культурны ўклад у гэтых краёх, праблемы інтэграцыі й асыміляцыі ды іхныя праблемы ў сьвятле цяперашніх дэбатаў аб двумоўі й двукультур'і ў Канадзе.

Як відаць зь Бюлетэню ўнівэрсытэту, канфэрэнцыя будзе мецъ вялікае значаньне, паколькі вялікая колькасьць навукоўцаў і іншых зацікаўленых славянскімі праблемамі асобаў прыабяцалі прыняць у ёй актыўны ўдзел. Сярод запрошаных да ўдзелу ў канфэрэнцыі фігуруе й Згуртаваньне Беларусаў Канады.

### ПАТРЭБНЫЯ НАРОДНЫЯ ІНСТРУМАНТЫ

Канадыйскі Нацыянальны Музэй у Атаве пляну выстаўку музычных інструмантаў і артыфактаў з мэтаю адлюстраваньня традыцыйных культураў усіх нацыянальнасьцяў, што насяляюць Канаду. Заплянаваная ў сувязі з адзначэньнем стагодзьдзя Канады, Выстаўка праўдападобна будзе месьціцца ў новым будынку Музею як сталы паказ пад назовам: „Музыка й Традыцыі ад Акіяну да Акіяну". Выстаўка будзе мець наўвеце адлюстраваць як адзінства, гэтак і рознасьць культурнай спадчыны ў Канадзе.

Кампазытар і музыкалёг Кэнэт Пікок заангажаваны зьбіраць патрэбныя музычныя інструманты й артыфакты для выстаўкі. Ён на працягу ўжо трох год падарожнічаў па ўсёй краіне ды запісваў на йстужку традыцыйную музыку ад народных сьпевакоў і музыкаў розных этнічных групаў. Усе сабраныя ім калекцыі будуць зьмешчаныя ў Фальклёрным Архіве Нацыянальнага Музэю. Неўзабаве мае быць апублікаваны ўвесь сабраны матарыял у арыгінальных мовах і ў ангельскім перакладзе.

Усе тыя, што жадаюць падарыць ці прадаць свой стары інструмант ці традыцыйны артыфакт (народны інструмант) для выстаўкі ў Атаве, хай зьвернуцца лістоўна да сп. Кэнэт Пікок, Канадыйскі Нацыянальны Музэй, Атава 4, Антарыё. У лісьце павінен быць адрыс зацікаўленага, назоў інструманту ці артыфакту, назоў нацыянальнасьці, што яго ўжывае ці ўжывала, цана, калі хто ня можа яго падарыць.

**(„Канадыйская Сцэна")**

### ПАДРЫХТАВАНЬНІ ДА УРАЧЫСТАСЬЦЯЎ

Ужо ад колькіх месяцаў вядуцца падрыхтаваньні да ўрачыстасьцяў у сувязі зь пераходам з будынку старой ратушы ў новазбудаваную апошнімі гадамі ратушу ў Тароньце. Урачыстасьці будуць адбывацца на працягу цэлага тыдня ад панядзелку 13 верасьня да сыботы 18 верасьня сёлета пры ўдзеле ўсіх слаёў жыхароў Таронта.

Сам будынак мае вельмі цікавую форму. Яго праектаваў фінскі архітэкт, які выйграў конкурс і атрымаў адзін мільён прэміі. Кошт усяе пабудовы абыйдзецца звыш 30-ёх мільёнаў даляраў. Затое будынак гэты застанецца назаўсёды выдатным сымбалем другога паводля вялічыні гораду Канады.

Варта напомніць, што беларускай грамадзе ў Тароньце трэба ўжо цяпераka пачынаць рыхтавацца да актыўнага ўдзелу ў гэтых урачыстасьцях.

### НАШТО ХЛУСІЦЬ І ЗАТОЙВАЦЬ?

Выконваючы просьбу нашага чытача з Ашавы, зьмяшчаем гэтта аўтэнтычны фотаздымак з прыняцьця Беларускай Дэлегацыі мэрам гораду Ашава сп. Лайманам Гіффардам (не Джыффардам!) у дзень 23 сакавіка сёлета з нагоды



ўгодкаў Дня Незалежнасьці Беларусі, калі гэтай дэлегацыяй былі перададзены мэру беларускі сьцяг для падняцьця на будынку гарадзкой ратушы (гл. здымак у № 96-97 „Беларуса"). Робім гэта таму, што газэціна „Беларускі Голас" у № 126 за красавік, зьмяшчаючы далёка няпоўны рэпартаж аб сьвяткаваньні ў Ашаве, зьмясьціла таксама няпоўны здымак, выразаўшы чацьвертага ўдзельніка беларускай дэлегацыі й сябру БСК сп. А. Маркевіча (поўны здымак быў зьмешчаны ў Ашаўскай газэце „Ошава Таймс"). „Хай гэты здымак будзе яшчэ адным довадам хлусьні, інтрыгаў і перакручваньня фактаў блуднага пісакі зь „Беларускага Голасу", — піша нам успомнены чытач з Ашавы.

## СЬВ. ПАМ. ПЁТРА НЕКРАШЭВІЧ

Сьв. пам. Пётра Некрашэвіч нарадзіўся 22 студзеня 1905 г. у Жыткавіцкім павеце Гомельскай акругі. У 30-ых гадох быў высланы зь сям'ёю ў Сібір, адкуль толькі прыпадкова ўдалося яму вярнуцца ў свае родныя мясьціны. Але ў часе апошняе вайны быў змабілізаваны ў савецкую армію й праз кароткі час апынуўся ў нямецкім палоне, зь якога пашчасьціла яму ўцячы.

Бацькаўшчыну быў змушаны пакінуць у 1944 годзе. Да канца вайны жыў у Нямеччыне, у 1948 годзе пераехаў у Шатляндыю, затым у Ангельшчыну, куды сьцягнуў і сям'ю. У Канаду прыбыў у 1954 г., дзе й асеў на стала. Апошняга году занядужаў на хваробу рака, прайшоў апэрацыю, але ўсё было дарэмна, і 12 лістапада леташнянга году адыйшоў на вечны супакой. Нябожчык пакінуў маці, жонку, дзьве дачкі, сына й брата. Пахаваны на Ёрк Сэмэтры ў Таронта.

Хай яму мяккай будзе гасьцінная канадыйская зямля!

### 25 САКАВІКА У МОНТРЭАЛІ

Монтрэальскі Аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады адзначыў 47-ыя ўгодкі Вялікага Сакавіковага Акту адумысловай урачыстай радыёвай праграмай у сыботу 27 сакавіка сёлета. Гэтая праграма складалася з мантажу беларускіх песьняў з музыкай, як і дакладу інж. Я. Жытко. Згаданая праграма, перадаваная цераз радыястанцыю СФМБ, мела немалы эфэкт і была чуваць на вялікім дыяпазоне хваль.

### 17-Ы АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗБК

Згодна пастановы Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў Канады з 24 красавіка сёлета, 17-ы Агульны Зьезд дэлегатаў і сяброў ЗБК склікаецца на сыботу 6 чырвеня сёлета ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Тароньце на 2-ую гадзіну папаўдні. Усе сяброўкі й сябры будуць сваячасова паведамлены аб Зьезьдзе адмысловым камунікатам, які неўзабаве разашлецца.

**Сакратар Галоўнай Управы ЗБК**

# ЗЛАЧЫНЦЫ АБВІНАВАЧВАЮЦЬ

II.

Маскоўска-бальшавіцкія каляніяльныя ўлады ў Беларусі далі паняволенаму народу эрзац незалежнасьці ў хворме БССР, дый вонкавыя сурагаты эмблемаў суверэннасьці — дзяржаўны сьцяг, а насамперш дзяржаўны гімн, што пачынаецца славамі „Мы Беларусы із братняю Русьсю..." Сваю „роднапартыйную" палітыку вынішчэньня беларускага народу маскоўскія каляніялістыя ўжыцьцяўлялі ня толькі падчас апошняй вайны, калі яна прыняла найбольш жорсткія хвормы, але й падчас гэтак званага „мірнага будаўніцтва" перад вайной, калі наверсе сядзеў Сосо, праклятыі й сяньня-ж усё яшчэ праклінаны (не за народавынішчэньне) партыйнымі бюркратамі, тварцамі бэсэсэраўскай культуры й завяртанцамі носьбіт гэтак званага культу.

Бальшавіцкія прапагандыстыя й тварцы антынароднай, у сваей аснове бязбожнай, савецкай культуры намагаліся й цяпер намагаюцца маляваць бальшавіцкую сыстэму як найбольш гуманную ў сьвеце. Маўляў, савецкія верхаводы нічога не рабілі й ня робяць, як толькі марыліся вечна бяссоньніцай, камбінуючы, як гэта палепшыць дабрабыт простага працоўнага грамадзяніна, стварыць яму рай на зямлі. Таму варта яшчэ раз прыгадаць той перадваенны пэрыяд гэтак званага „мірнага будаўніцтва" й як дорага каштаваў ён нашаму паняволенаму народу.

У розныя часы і ў розных беларускіх нацыянальных газэтах, часапісах і кнігах зьяўляліся фрагмэнты гэнага пэрыяду. Адным зь іх былі сакрэтныя дакуманты Маскоўскай кантрольнай камісіі НКВД, у якіх самі бальшавікі прызнаюцца да масавага вынішчэньня нявінных Беларусаў. Дакуманты гэтыя, падрыхтаваныя прэз. Абрамчыкам, былі стараньнямі ЗБК выданыя ў ангельскай мове ў 1950 годзе, у Тароньце п. заг. „Я абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу". Сакрэтныя дакуманты раскрываюць перад нашымі вачамі кашмарныя жудасьці маскоўскабальшавіцкага панаваньня ў Беларусі. Маскоўскія пракуроры сьцьвярджаюць, што адно за два гады было бяз суду ў Беларусі абвінавачана й расстрэлена 13,325 нявінных асоб. Адрачыся ад такіх зьверстваў над нашым паняволеным народам бальшавікі ня змогуць, бо гэтыя тайныя дакуманты знаходзяцца ў руках ураду БНР на выгнаньні. А колькі-ж было іншых ахвяр з рук камуністычнага антынароднага рэжыму, пра якія мы ня ведаем.

Кампэтэнтныя ў гэтых справах навукоўцы аблічваюць, што калі-б беларускі народ меў волю на працягу сваей гісторыі, калі-б яго ня вынішчалі Маскалі белыя й чырвоныя ды й свае вырадкі, сяньня лік ягоны сягаў-бы звыш 50-ці мілёнаў. Згодна-ж апошняга бальшавіцкага пэрэпісу, у бэсэсэрыі жыве звыш васьмі мілёнаў людзей, а з гэтага Беларусаў па нацыянальнасьці — няпоўных сем мілёнаў. Вось колькі нам каштуюць гэтак званыя дабрадзействы й апека тых людцаў і іхных гэткіх-жа самых папярэднікаў, што стараюцца ўмаўляць сьвету, што ніколі так добра й шчасьліва наш народ ня жыў, такой вялікай вольнасьці ня меў, як пасьля „узьяднаньня зь вялікім рускім народам" ды асабліва пасьля праклятага волялюбнымі людзьмі чырвонага кастрычніка. Гэтае „узьеднаньне" й „кастрычнік" бокам нам вылез і вылазіць сяньня.

У трыццатых гадох, як усім ведама, маскоўскія валадары адрэзалі беларускаму народу галаву: арыштамі, ссылкамі й расстрэламі зьліквідавалі масу культурна-творчага, навуковага, гаспадарскага, сялянскага й работніцкага элемэнту. Гэта запаволіла народнае творчае жыцьцё й эканамічны развой на некалькі дэкадаў. Сяньня й бэсэсэраўскія бюркраты ды іншыя гэта прызнаюць, адылі сьпісваюць той найбольш антынародны злачын, што дарэчы не абмяжоўваўся да Беларусаў, на гэтак званы культ асобы. Маўляў, ня было-б гэнага культу, усё было-б гладзенька, проста й шчасьліва, цьвіцела-б жыцьцё якраз так, як у раю. А на глебе чаго, калі не камунізму, вырас гэны культ? Грош вам цана, калі вы ўсе сяньня такія разумныя, дазволілі аднэй асобе вырабляць над мілёнамі такія зьдзекі.

Дзікія й жахлівыя зьверствы гэнае пары сяньня сям-там, адно пабочна, прыгадваюцца і ў бэсэсэраўскіх публікацыях. Адну такую згадку, вельмі характэрную, прывядзём гэтта з № 12 за 1964 год „Полымя".

Высокую ацэну творчасьці гаротніка-мучаніка Уладзімера Хадыкі дае сам-жа катаржнік Станіслаў Шушкевіч. Як ведама, таленавіты ўзвышэнец Уладзімер Хадыка ў трыццатых гадох у ліку іншых быў за гэтак званыя буржуазна-нацыяналістычныя ўхілы сасланы ў Сібір, пазбаўлены на дзесяць год волі й на пяць год грамадзянскіх правоў. Вось што піша Станіслаў Шушкевіч:

„У цемру завулка Даўгабродзкай вуліцы ўляцела легкавая машына. Тры ліхтарыкі асьвяцілі брамку, а пасьля сьцежку аж да самага ганку драўлянага доміка. У дзьверы пастукалі:

— Тут жыве Уладзімер Хадыка?

Гаспадару хаты ў далікатнай хворме быў прад'яўлены ордэр на права вобыску й арышту.

Амаль праз год, 3-га кастрычніка 1937-га году, Уладзімер Хадыка стаяў перад судзьдзёю, старшынёй спэцкалегіі Вярхоўнага Суду БССР Васілём Карпікам.

Адзін зь сяброў калегіі абвяшчае, што паэт напісаў контррэвалюцыйны твор „Пастка", што гэты твор — вялікае злачынства.

Хадыка адказвае, што твор „Пастка" напісаў ня ён, а Сымон Баранавых, што гэта праўдзівая мастацкая аповесьць, што ў ёй няма нічога конррэвалюцыйнага.

Зноў задаюцца пытаньні:

— Вы сябра Саюзу пісьменьнікаў?

— Хто знайшоў сьмеласьць падпісаць вам пісьменьніцкі білет?

Хадыка адказвае, што яго білет падпісаны Максімам Горкім...

Неўзабаве быў прачытаны прысуд. Уладзімера Хадыку пазбаўлялі на дзесяць год свабоды й на пяць год грамадзянскіх правоў, пасьля адбыцьця пакараньня ў папраўна-працоўных лягерах."

І далей:

— „...Я нёс зьнясіленага таварыша ў часе сьнежнага бурану сібірскім стэпам, я плакаў над маленькім лісточкам, зь якога даведаўся, што каменная глыба раздушыла майго таварыша ў вапняным кар'еры 1-га ліпеня 1940-га году.

Потым я даведаўся, што спрадвечную батрачку Зосю, матку паэты, выгналі з кватэры сына й яна на страсьці год пайшла па людзёх шукаць прытулку.

Я ведаю, што асталася бяздомнай жонка паэты Фаіна з сынам Уладзікам на руках.

Якая трагэдыя! Гэтую-ж няшчасную жанчыну выдаў нямецкім фашыстам былы царскі падпалкоўнік, і яе расстралялі. Выдаў той, у каго бацька паэты Марцін быў хурманом, вартаўніком, парабкам.

Сярод попелу тысяч нявінных людзей каля вёскі Трасьцянец ляжыць попел сямігадовага Уладзімера Хадыкі, сына паэты."

І далей катаржнік Шушкевіч, якому й сяньня шчэ адрыгаюцца мудрыя дабрадзействы „роднай партыі", піша гэтак:

„Гэта ніколі не павінна паўтарыцца.

Ленінская праўда, праўда нашай партыі сарвала цёмную культаўскую заслону з жыцьця нашага народу. Імёны тысяч людзей, утаптаныя свавольствам і бяспраўем у паклёпніцкі бруд, заіскрыліся зноў сваёй чысьцінёю. Тыя, што загінулі, навечна астануцца ў нашай памяці, тыя, хто астаўся жыць, — сяньня ў радох вольных і шчасьлівых будаўнікоў камунізму."

Вось дык здорава! Маладзец, што й гаварыць! Хоць кроўю адрыгаецца табе гэны „культ", які „родная партыя" выпладзіла ў мінулым, ты ўсё-ж зноў знайшоўся „ў радох вольных і шчасьлівых будаўнікоў камунізму."

Будуйце-ж, будуйце! Можа й пабудуеце, калі сьпіны на тых будоўлях ня зьвіхнеце. А ўжо-ж як пабудуеце, тады-ж наплодзяцца зноў „культы" й кульцікі. Глеба-ж тая самая, што ў мінулым дала выплодкаў-пачвараў, ад якіх во ўжо колькі часу аддыхацца ня можаце.

Ні жартачкі-ж гэта! Вырвалі ў народу сэрца, адрэзалі галаву ды ўсё яшчэ з крывадушнасьцю тыя мілёны ахвяраў аплёўваюць, катаў, вылюдкаў і „родную партыю" славячы.

Калі-б вы ўжо сур'ёзна ўзяліся тое бяспраўе із свае бацькаўшчыны вымесьці, дык перш за ўсё гэнаму навуковаму інстытуту гісторыі акадэміі навук БССР трэба было-б добра папацець, каб да карэньчыкаў зла, значыцца культу гэнага дабраца, дый усе ахвяры падлічыць, а калі нельга больш, дык хоць пасьмяротна дзеячоў культуры, навукі, й эканомікі рэгабілітаваць. І сяньня-ж вунь яшчэ маса забытых і аплёваных у нябыцьці астаецца. А пасьля ўжо хіба трэба было-б народу поўную праўду сказаць, дый віноўнікаў усіх бед і няшчасьцяў із свайго беларускага дому ўпрочкі ад сябе папэрці.

Бязумоўна, як той другі былы ваш „культавец" Мікіта казаў, скарэй сьлімак засьвішча, чым адважацца розныя раманоўскія што людзкае для народнага дабра зрабіць. Бо вы баіцеся, каб народ не пазнаў праўды й ня стаўся вольным, бо вы не ўстаялі-б супраць народнага гневу.

Дык вось, як і раней, перад каляніяльнымі ўладарамі поўзаеце, бо некаторыя з вас роджаныя паўзуны, а іншым гаспадар паабразаў крыльлі. Дык вось і шпурляеце таварышы рамаоўскія, па загаду гаспадара, усялякімі непрадападобнымі нікчэмнасьцямі на гэты бок „сьвяшчэнных межаў саюзу" ў твар самаахвярных патрыётаў, сыноў і дачок беларускага народу на выгнаньні, што змагаюцца за вызваленьне яго.

Гэтыя выгнаньнікі, колькі й якіхбы вы ім не чаплялі ярлыкоў, добра ведаюць цану Гітлеру й вашаму сонейку Сталіну, якога й вы, хоць нясьмела, ды зноў-жа з волі „роднае партыі", самі праклялі.

А што да беларускага народу, дык пераніё ён вунь якія ліхалецьці ў мінулым, дый з Божай помаччу перанясе й вашае бязбожнае, антынароднае, „роднапартыйнае". Бо не забыцца яму тэй вялікай праўды, якую яшчэ ў 2-м нумары „Мужыцкай Праўды" сказаў ягоны сын - волат Кастусь Каліноўскі: „Быў калісьці наш народ вольны й багаты. Але па суседзтву з намі жыў немец і маскаль. Аднаму й другому багацтва нашае калола ў вочы, каб іх так колка схапіла, дый захацелі нас прагнаць з нашае бацькаўшчыны... Калі-ж маскаль зь немцам нас хітрасьцяй падбіў і нашой урад маскоўскі, дык і ўсё зрабілася кепска..."

**К. Акула**

# СТУДЭНТКІ-АМЭРЫКАНКІ У РОЛІ БЕЛАРУСАК



*Танец „Мікіта". Зьлева направа: Mary Chalberg, Raisa Stankevic, Cheryl Usellini, Mary Lou Erhardt, Joyce McAndrews, Mary Calabrese, Barbara Vasiloff*

Тры каледжы гораду Вінона (у штаце Мінэсота) — жаноцкі сьв. Тэрэсы, прыватны хлапцоўскі й мяшаны штацкі — ладзяць штогоду Міжнародны Канцэрт. Канцэрт гэты арганізуе Інтэрнацыянальны Клюб, сябрамі якога чужынецкія студэнты гэтых каледжаў, а таксама й Амэрыканцы, сымпатыкі гэтае арганізацыі.

Сёлета Інтэрнацыянальны Вечар-Канцэрт адбыўся ў сыботу 20 сакавіка. У ягонай праграме былі сьпевы, народныя танцы, рэцытацыі, скэчы. Былі рэпрэзэнтаваныя краіны: Францыя, Нарвэгія, Грэнляндыя, Філіпіны, Калюмбія, Джэмэйка, Гаваі, Портарыка, Балівія, Панама, Японія, Кітай, Танзанія й Беларусь.

Калі прыйшла чарга для Беларусі, на сцэну выбеглі чатыры пары студэнтак-танцорак, апраненых у беларускія народныя касьцюмы. Яны з тэмпэрамэнтам выканалі нашую „Лявоніху" й „Мікіту". Прысутныя Амэрыканцы ўпяршыню пабачылі беларускія танцы, падзівілі беларускую народную вопратку, а некаторыя ўпяршыню й пачулі пра Беларусь. Агульнаму захапленьню й апладысмэнтам ня было канца. Усе гаварылі, што беларускія танцы выпалі найлепш.

Перад выступам беларускай групы адзін студэнт у вадмысловай прамове коратка расказаў пра Беларусь ды зазначыў, што якраз у гэтым часе Беларусы ў вольным сьвеце адзначаюць 47-ыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Другі раз выступіла нашая група з беларускімі танцамі 4 красавіка ў Доме для інвалідаў і старых гэтага гораду зь ня меншым пасьпехам.

Нашай танцавальнай групе, якая складаецца зь сямёх Амэрыканак і аднэй Беларускі, давялося добра папрацаваць пару месяцаў, пакуль навучыліся выконваць на ўзроўні гэтыя танцы. Была нагода таксама шмат расказваць пра Беларусь, і шкада, што ня шмат ёсьць у ангельскай мове адпаведнага матарыялу.

Мне здаецца, што тых сем студэнтак Амэрыканак, што выступалі ў ролі Беларусак, хутка не забудуць гэтага здарэньня, як і не забудуць слова Беларусь.

Хоць народная прыказка кажа, што адзін у полі ня воін, усё-ж і адзін можа нешта пазытыўнае зрабіць для прапаганды Беларусі сярод чужынікоў, калі толькі мае ахвоту й добрую волю.

**Р. Ст.**

# У СЬВЯТЛЕ АРХІЎНЫХ ЗНАХАДАК

У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку ўжо колькі год вядуцца пошукі матар'ялаў і фактаў аб жыцьці вялікага сына Беларусі — першадрукара доктара Францішка Скарыны з Полацку.

Ідучы Скарынавымі сьлядамі, працаўнікі Інстытуту вывучаюць розныя эўрапейскія архівы й бібліятэкі, шукаючы першакрыніцаў Скарынаведы. Адна з гэткіх крыніцаў — архівы Падуанскага Ўнівэрсытэту, дзе Францішак Скарына ў 1512 годзе гэтак слаўна здабыў доктарскі тытул. Шмат дадзеных знайшлі беларускія скарынаведы і ў кніжных зборах ды архівах Брытанскага Музею ў Лёндане.

Кажнаю сваёю новаю знаходкай Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва дзеліцца з шырэйшым беларускім грамадзтвам. Гэтак, Інстытут зладзіў ужо ці адну, прысьвечаную Скарыне, выстаўку, і цэлы шэраг дакладаў на гэтую-ж тэму.

Адзін з гэткіх дакладаў адбыўся ў Нью-Ёрку 13-га сакавіка сёлета. Тэмаю дакладу было: „Скарына ў сьвятле новых архіўных знаходак у Падуі". Чытаў рэфэрат др. Вітаўт Тумаш, адзін з дасьледнікаў Скарынавага жыцьця.

— На карце Эўропы – пачаў свой даклад доктар Тумаш—ёсьць каля 10-х пунктаў, зьвязаных з жыцьцём Францішка Скарыны. Працягам апошніх год беларускім навукоўцам на Захадзе ўдалося прасачыць побыт Скарыны бадай ува ўсіх гэтых асяродках.

Асабліва каштоўныя знаходкі былі зробленыя, аднак, у Італіі, у горадзе Падуі. Падуя была вельмі важнаю вехаю ў жыцьці Скарыны. Падуанская Акадэмія ў 16-м стагодзьдзі прыцягвала да сябе ўвагу тагачаснага навуковага сьвету й студэнцкае моладзі з усіх краінаў Эўропы. Акадэмія гэтая славілася тады, не адно выдатнымі прафэсарамі, але й сваімі лібэральнымі на тыя часы ўмовамі. Ня дзіва, што прыбыў сюды здабыць свой тытул доктара лекарскіх навукаў і Францішак Скарына. Дакумэнты аб побыце Скарыны ў Падуі былі надрукаваныя яшчэ ў мінулым стагодзьдзі.

Аднак, у 1959 годзе Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва яшчэ раз перагледзеў архівы Падуі. Туды быў далегаваны прадстаўнік Інстытуту. Вынікі ягоных пошукаў былі непадзяваныя: побач з ужо знанымі дакумэнтамі аб трох экзамінах Францішка Скарыны на доктарскую годнасьць, беларускаму дасьледніку пашчасьціла знайсьці ў архівах Падуанскае Біскупскае Курыі яшчэ адзін, дагэтуль няведамы нікому акт, датаваны 9-га лістапада 1512-га году. З гэтага даведаемся, што „выдатны муж спадар магістар Францішак, сын нябожчыка спадара Лукаша Скарыны з Полацку быў сакратаром караля Даніі". Гэта зусім новая, незвычайна цікавая дэталь у біяграфіі Францішка Скарыны.

Адкрыцьцё ў Падуі нязнанага дагэтуль акту пра Скарынавыя доктарскія экзаміны важнае таксама й тым, — законны свой рэфэрат доктар Тумаш, — што зробленае яно Беларусам і з даручэньня беларускае-ж установы — Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Беларускія Скарынаведы на Захадзе будуць далей вывучаць Скарынавы падарожжы па Эўропе, каб да 450-х угодкаў беларускага друку, што прыпадаюць на 1967 год, выдрукаваць грунтоўную біяграфію вялікага сына Беларусі — доктара Францішка Скарыны з Полацку.

**Н. К.**

**Абавязкам кажнага Беларуса падтрымаць грашова собскую газэту „Беларуса"**

